Народная Воля
8 КРАСАВІКА 1999 г.

Позиция

*Александр СОСНОВ,*
*заместитель директора Независимого института социально-экономических и политических исследований, экс-министр труда*

# Скороспелая интеграция, или Недоношенный Союз

Многие российские политики считают проблему объединения двух стран политически решенной. В интеграционном экстазе усердно обсуждаются механизмы, пути и способы слияния двух стран. При этом на имеющиеся сомнения и протесты не обращается никакого внимания. По моему твердому убеждению, все это происходит из-за **великодержавности и имперского мышления**, вбитых за многие столетия в российские головы.

Можно услышать, что белорусские граждане сами только и мечтают о вхождении в состав России. Да, мечтают. Многие, но не все. И процент мечтающих с каждым годом уменьшается. Мечтают отставники Советской Армии и спецслужб, осевшие в Беларуси, ненавидящие и презирающие белорусов. Мечтают чиновники, которым безразлично, где служить, лишь бы было тепло и хлебно, желательно в так называемых "союзных органах", с московскими зарплатами и квартирами. Мечтают некоторые деятели науки, искусства и культуры, сокращенные размерами российских гонораров. То есть мечтает, давайте прямо скажем, лишь российская пятая колонна да белорусские коллаборационисты, называемые у нас интеграстами. К сожалению, в России слушают и слышат только их.

С начала оккупации белорусских земель в 1772 году уже два столетия идет тотальная русификация белорусского общественного сознания. После этого так называемые интеграсты с невинным видом говорят, что белорусы якобы сами хотят жить в едином государстве, сами хотят говорить на русском языке, сами не хотят читать белорусских книг, сами отказываются от своей истории и т.п. При этом замалчивается, что даже сегодня всю государственную политику в сфере образования, науки, культуры и искусства Беларуси определяет отставной российский полковник, с подачи которого на ниве борьбы со всем белорусским за последние два-три года сделано больше, чем царским режимом за сто лет. При этом не афишируется, что сегодня на Беларусь ежесуточно вещают семь российских телепрограмм, искореняя остатки белорусского языка. При этом предается забвению тот факт, что как в прошлом веке, так и в нынешнем, массированно уничтожалась белорусская интеллигенция — носитель национального самосознания.

Не остались в стороне и российские активисты интеграции. Так, совсем недавно один видный претендент на президентский пост, который мутит воду в отколовшихся от России странах, с возмущением заявил, что парад суверенитетов — так названо конституционное право наций на самоопределение — вызван всего лишь желанием местных элит самостоятельно управлять своей страной. Наверное, он полагает, что в этих странах должны плакать от счастья, если им пришлют в правители какого-нибудь списанного в утиль московского чиновника? Если так считают видные политики, то чего ждать от остальных?

Есть и другие неприятные вопросы. Например, откуда в Беларусь пришел большевизм? Откуда сегодня к нам хлынули ядовитые потоки фашизма? Почему Россия поддерживает нынешний белорусский режим, коммунистический по содержанию и диктаторский по форме, если он активно нарушает права человека и грабит ту же Россию?

Думаю, что в отношении инкорпорации в Россию у нормального гражданина Беларуси только одно желание: когда же наконец от нас отстанут? Когда не будут мешать жить? Что еще от нас надо? Уже и так забрали все: свободу, язык, культуру, историю, будущее — вообще лишили нормальной жизни. Теперь осталось отобрать последнее — наш бюджет — и объявить все это "союзом". Кто-то, конечно, получит при этом удовольствие. Но ведь останутся оскорбленные и униженные, останутся ненависть и жажда мести. Уверен — все это рано или поздно будет иметь последствия.

В России прекрасно знают, что Европа интегрируется уже около ста лет и конца не видать. Процесс европейской интеграции идет очень медленно, с остановками и возвратами. Все многократно просчитывается, анализируется, согласовывается и принимается лишь тогда, когда новый шаг интеграции выгоден всем участникам. Сегодня уровень интеграции европейских стран на два порядка выше, чем российских регионов, но никто даже и не пытается ставить вопрос о лишении независимости какой-либо из них или о слиянии европейских стран в одно государство.

А некоторые российские политики уж очень торопятся! Глаза горят, с клыков капает... Не упустить бы! С чего такая спешка? Может, они рассчитывают, что инкорпорация Беларуси предотвратит распад России? Как раз наоборот! Не предотвратит, а будет способствовать. Если судить по заявлениям некоторых лидеров российских национальных образований, нет сомнения в том, что инкорпорация Беларуси только нарушит хрупкое равновесие внутрироссийских отношений и усилит центробежные тенденции. Не думаю, что Россия готова к этому. И чем раньше в России это поймут, тем лучше будет для ее граждан.

Однако с подачи А.Лукашенко занялись интеграционными игрищами. Ну и каковы результаты? Если, например, расходы на межпарламентские посиделки уже превысили несколько миллионов долларов, то что от этого получило население? Возможность беспрепятственно ездить друг к другу? Возможность работать в России? От их заседаний эти возможности не возросли - они были и ранее.

В то же время если четыре года назад Беларусь имела положительное сальдо в торговле с западными странами, то после создания единого таможенного пространства сальдо стало отрицательным. Ибо все единение свелось к навязыванию Беларуси российских таможенных норм и правил, защищающих, естественно, российские экономические интересы, что привело к краху наших субъектов хозяйствования и сокращению валютного экспорта Беларуси почти в три раза.

Переориентация экономики на стагнирующую Россию способствует консервации технической отсталости белорусского производства, низкому качеству выпускаемой продукции, бартеризации торговли. Уже завтра российские потребители откажутся от барахла белорусского производства.

Дешевые энергоносители и сырье — главный козырь интеграстов — вовсе не благо для Беларуси, а наркотик. Дешевизна факторов производства ведет к неэкономному их использованию, к отсталости и неэффективности. Вместо этого нам нужны новые технологические партнеры, структурная перестройка, вхождение в систему мирохозяйственных связей, открытая экономика. И совершенно не нужна реинтеграция в морально устаревшую и физически изношенную производственную систему России, реинтеграция, консервирующая ресурсо- и энергоемкую структуру белорусской экономики. Совершенно бессмысленно восстанавливать разорванные распадом СССР связи и добиваться объемов производства уровня 1990-го года, ибо при нынешних ценах на сырье и энергоносители и технологическом уровне белорусских предприятий это сделает нашу страну вечным должником России. Следовательно, все, что сегодня принесет Беларуси "союз", — это нищета и провинциальность. Не хотелось бы думать, что именно в этом состоят российские стратегические планы в отношении Беларуси.

Может, Россия что-либо выиграла экономически от интеграции? Сомневаюсь, если учесть, что непосредственная финансовая поддержка белорусского режима, без которой он давно бы уже рухнул, стоит российским гражданам до 1,5 миллиарда долларов в год. Кроме того, достаточно солидную сумму Россия теряет из-за контрабанды подконтрольными президенту структурами спиртного и сигарет.

Может, поэтому он такой "горячий инициатор" объединения? Вообще-то совсем не очевидно, что он действительно искренне стремится к единению с Россией. Он может изображать все, что угодно, но на самом деле ему нужна только власть! Ради власти он готов на все!

Стремясь иметь полную власть в стране, не желая ни с кем ее делить, он, например, не может пойти на рыночные преобразования, поскольку это непременно приведет к демократизации и, следовательно, к частичной потере власти. Вместе с тем дальнейшее развитие страны по пути "рыночного социализма" невозможно без внешней помощи, поскольку своих ликвидных ресурсов Беларусь практически не имеет. Поэтому А.Лукашенко, удачно используя имперские амбиции российского истеблишмента, лишь имитирует эскалацию интеграции — от содружества до полного объединения.

Конечно, руководство России не так просто обмануть. Однако стратегические интересы все же перевешивают. В результате, А.Лукашенко получает экономическую помощь, в оплату за которую он от своего имени изредка оглашает точку зрения российской оппозиции о международных делах да ублажает интеграционным елеем российских империалистов.

Однако А.Лукашенко уже тесно в Беларуси. Ему хочется большего. Конечно, он еще особо не афиширует свою мечту о мировом господстве, но — как первый шаг — перед ним огромная Россия, многие граждане которой помнят не только о прошлой, более сытой социалистической жизни, но еще с большей ностальгией вспоминают о былом величии России. Эксплуатируя эту ноту, А.Лукашенко рядится в тогу "собирателя славянских земель" под эгидой, конечно, России. Успех в российских регионах обеспечен!

После этого начинается очередной интеграционный экстаз. Все теснее и теснее, до полного объединения, но вдруг... "с сохранением суверенитетов каждой страны"?! Почему же опять остановка? А потому, что Беларусь — это разменная монета в борьбе Лукашенко за российский трон. Он немедленно сдаст ее, но только после получения первого (недавно согласился и на второе) места в Кремле. Ему все равно, будет ли это Россия или некий "союз". Лишь бы у руля!

Может показаться, что в последнее время интеграционные страсти "главного славянина" как-то поутихли. Лишь межпарламент по инерции еще пашет на ниве объединения. Дело, видимо, в том, что А.Лукашенко почувствовал невозможность получить Кремль на данном этапе. Это совсем не значит, что он отказался от затеи. Просто он понял, что одной Беларусью власть в России сейчас не купить. Именно поэтому с его стороны в последнее время прилагается масса усилий, чтобы пригнать в интеграционное стойло Украину. Если на этом поприще произойдут хоть малейшие подвижки — снова последует всплеск интеграционной активности.

Совсем недавно я полагал, что до тех пор, пока А.Лукашенко не получит ощутимых гарантий своего воцарения в Кремле, он Беларусь не сдаст, готовый долго рассуждать на темы интеграции и водить Россию за нос. Однако сегодня приходится эту мысль корректировать. Дело в том, что последние события в Беларуси дают основания предполагать возможность дворцового переворота с отстранением его от власти. Думаю, что и он это ощущает. Поэтому у него может появиться потребность срочно рассчитаться Беларусью за возможность скрыться с награбленным и избежать ответственности.

В связи с этим, на мой взгляд, было бы честнее, справедливее да и правильнее наложить хотя бы пятидесятилетний мораторий на любую идею объединения наших стран. Думаю, когда улягутся страсти и утихнет ностальгия по СССР, наши потомки разрешат данную проблему к полному взаимному удовлетворению.

**P.S.** *В основе этой стати — выступление А.Соснова в Москве во время Общественных слушаний по проблемам интеграции России и Беларуси, в которых приняли участие представители коалиции "Правое дело" (Россия) и демократических сил Беларуси.*

## Заява кіраўніцтва БНФ "Адраджэнне"

Кіраўніцтва БНФ "Адраджэнне" разглядае арышт Міхаіла Чыгіра праваахоўнымі органамі Беларусі найперш як палітычную акцыю, накіраваную на запалохванне беларускага грамадства. Мы нязменна выступаем за павагу да правоў чалавека, за аднаўленне законнасці ў нашай краіне і выказваем сваё глыбокае абурэнне рэпрэсіўнымі дзеяннямі з боку лукашэнкаўскіх улад. Патрабуем неадкладнага вызвалення Міхаіла Чыгіра і нашых палітвязняў.

## На радыеактыўных пясках вырастуць лясы

Вясеннія лесапасадкі на тэрыторыях з узроўнем радыяцыі больш як 15 кюры на квадратны кіламетр пачалі супрацоўнікі Хойніцкага і Веткаўскага лясгасаў Гомельскай вобласці. Як паведамілі карэспандэнту ў прэсслужбе Міністэрства лясной гаспадаркі рэспублікі, пасадкі маладых дрэў асабліва важныя для прадухілення выветрывання глебы і пераносу радыеактыўных часціц на вялікія адлегласці.

**Андрэй ВАРАТНІКОЎ.**

Мнение

## Михаил Чигирь, похоже, "свергнет" Александра Лукашенко с политического олимпа еще до выборов



Мое мнение: арест Михаила Чигиря, кандидата на пост главы государства, в очередной раз продемонстрировал белорусскому обществу неспособность нынешнего режима к компромиссу. Теперь уже всем ясно, что первый президент Беларуси из-за нежелания и боязни сесть на равных за "круглый стол" с оппозицией упустил стратегическую инициативу.

Участие в президентских выборах, безусловно, поднимает известность любого политика. Естественно, что рейтинг возрос как у З.Позьняка, так и у М.Чигиря. Но — в разной степени. В списке 50 ведущих белорусских политиков в декабре Зенон Станиславович не присутствовал, в январе он — на 37-м месте, в феврале — на 25-м. А вот Михаил Николаевич в декабре был на 9-м месте, в январе — уже на 5-м, а в феврале — на 3-м месте.

"Виновник" бурного взлета одного из своих соперников — Александр Лукашенко. Потому как стартовые условия у этих политиков были равные. В списке 50 ведущих политиков Беларуси за 1986—1998 гг. будущих кандидатов в президенты разделяло всего пять строк: З.Позьняк — на 22-м, М.Чигирь — на 16-м местах.

Но Позьняком продолжают бессмысленно, а следовательно, безрезультатно пугать народ. Потому как страшилки эти при отсутствии самой "бабы-яги" дают обратный эффект. А вот о "злостном расхитителе" многомиллионных долларовых кредитов послушать, и, естественно, посудачить очень даже необходимо. А уж арест кандидата на высший пост в государстве не обсуждают лишь глухонемые.

Лучший способ популяризации Михаила Чигиря и придумать трудно. В условиях, когда кандидату в президенты закрыт доступ на государственное радио и телевидение, пресс-центры, в провинциальные газеты, во все практически залы и помещения Беларуси, вмещающие более сотни человек, о Михаиле Николаевиче говорят в каждой семье, на улицах и в общественном транспорте, на работе и на дачном участке.



Листовки и агитплакаты такого эффекта не принесут.

В феврале разрыв популярности между главой государства и его соперником был небольшой: 6.08 — у Александра Лукашенко, 4.35 — у Михаила Чигиря. Не исключаю, что, если не будет прекращено уголовное преследовани,е арестованный претендент еще до выборов потеснит нынешнего лидера с политического олимпа.

Что будет вполне закономерно. Ведь нынешние правители не в состоянии понять даже такой очевидной вещи, что те, кого можно напугать или купить, давно уже молчат в тряпочку. Зато не молчат тысячи членов инициативных групп обоих кандидатов в президенты Республики Беларусь.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ,**
**житель г.Минска.**

Стоп-кадр



## За здоровьем — на... сосну

В урочище Волево под Брестом живет удивительный человек — Владимир Денисович Филиппович. Хотя ему идет уже семьдесят второй год, он на зависть местным ребятишкам ездит на велосипеде, на мотоцикле, машине, ходит на ходулях, играет в мяч, делает самомассаж. И при всем при этом ведет домашнее хозяйство.

Вести такой образ жизни его заставили давнишние недуги. Подружившись с природой, используя ее дары — вдыхая чистый воздух, собирая травы, поддерживая себя тренировками, этот человек обрел силы и здоровье.

Познакомившись с вопросами регуляции кислорода и углерода в организме, правильное соотношение которых продлевает жизнь, решил Владимир Денисович соорудить в лесу в 800 метрах от дома на сосне нечто вроде домика. Сон в объятиях пышной хвойной кроны делает тело более выносливым, придает бодрость и здоровье, избавляет от головных болей. Ночует Владимир Денисович здесь и летом, и зимой. В этом году его лесному строению исполнится 25 лет.

**На снимке:** *у лесного домика.*

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**

## Беларускія вытворцы будуць прадстаўлены ў Жэневе

Прыярытэтныя інвестыцыйныя праекты беларускіх прадпрыемстваў і іх патэнцыяльныя магчымасці будуць прадстаўлены на 4-й Міжнароднай выстаўцы-канферэнцыі "Новыя рынкі". Яна пройдзе ў Жэневе ў канцы мая. Арганізатарамі форуму выступілі: Сусветная асацыяцыя агенцтваў садзейнічання інвестыцыям, Фонд новых рынкаў са Швейцарыі і іншыя арганізацыі.

Як паведамілі ў Беларускім агенцтве садзейнічання замежным інвестыцыям, галоўная мэта гэтага мерапрыемства — аказаць дапамогу краінам з пераходнай эканомікай у пошуку новых дзелавых партнёраў. Удзел у выстаўцы і канферэнцыі вытворцаў нашай краіны дасць ім магчымасць завязаць перспектыўныя кантакты з вядучымі кампаніямі і фінансавымі інстытутамі Еўропы, атрымаць інфармацыю і кансультацыі па юрыдычных, падатковых і фінансавых аспектах.

**Тэрэза ХАЮЦІНА.**

## Беларуская мінералка "зіхаціць" золатам і срэбрам

Залатога медаля дэгустацыйнага конкурсу мінеральных, пітных водаў і піва на 6-й Міжнароднай спецыялізаванай выстаўцы "Санкт-Пецярбургскі піўны аўкцыён-99" была ўдастоена беларуская мінералка "Бярэзінская-2" барысаўскага разліву. Сярэбранымі прызёрамі гэтага форуму сталі мінская "Усмешка" і "Бярэзінская-1".

Не засталося без узнагарод і беларускае піва. Як стала вядома карэспандэнту БелТА, бронзавы медаль у сваёй намінацыі атрымалі бурштынавыя напіткі "Лідскае класічнае" і "Спартак-Чэмпіён".

**Ларыса КАШТАНАВА.**

Здарэнне

## Выбух у Шклове

Магутны выбух скалануў пяціпавярховы жылы дом у раённым цэнтры Шклоў. Ён адбыўся ў двухпакаёвай кватэры на трэцім паверсе. Успыхнула полымя. Загарэліся балконы на суседніх чацвёртым і пятым паверхах. Толькі дзякуючы намаганням пажарных агонь удалося патушыць. Але ў кватэры, дзе здарылася гэта трагедыя, загінулі муж і жонка. Як паведамілі карэспандэнту работнікі мясцовай пажарнай службы, у пакоі былі знойдзены запалкі, пустая каністра з-пад гаручага і пах бензіну. Пры аглядзе цела гаспадыні заўважаны сляды насільнай смерці.

Падрабязнасці трагедыі высвятляюць эксперты і следчыя праваахоўных органаў.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ.**

Факт і каментарый

## Хутка будуць браць падатак за кісларод, які мы дыхаем

*Раённая газета "Навіны Камянеччыны" нядаўна апублікавала справаздачу з сесіі раённага савета дэпутатаў. Вось аб чым на ёй гаварылася:*

*"З мэтай папаўнення даходнай часткі, апрача традыцыйных паступленняў, сёлета прадугледжаны мясцовыя зборы за паслугі гасцініц, выдачу ордэраў на жыллё, за збор грыбоў, ягад, лекавых раслін і г.д.". Так дакладваў сесіі загадчык райфінаддзела Анатоль Раманчук. (Гл. "Навіны Камянеччыны" №22, 1999 г.)*

**Каментарый чытача,** жыхара Камянецкага раёна М.Альшэўскага:

— Як бачым, чыноўнікі пакуль яшчэ не дадумаліся браць падатак за кісларод, які мы дыхаем, а з ветэранаў за тое, што яны доўга жывуць. Але, відаць, чакаць засталося нядоўга.

Пры панскай Польшчы, каб схадзіць у лес за ягадамі, трэба было плаціць. Але ж тады лес быў панскім. Цяпер жа ён наш, народны. Дык чаму чыноўнікі бяруць падатак у самога гаспадара?

І яшчэ. У нас прадаюць расійскае мыла па 100 тысяч рублёў і болей за кавалачак. А нашага, якое ў два разы дзешавей, не знайсці. Навошта ж завозіць з Расіі тыя тавары, якія самі выраблям? Навошта такім чынам стымуляваць вытворцаў Расіі і душыць сваіх, беларускіх? Мабыць, дзеля гэтага і ствараецца той саюз з Расіяй? Выходзіць, ён ва ўрон нашаму народу.

**Ад рэдакцыі.** ***Падобныя сігналы паступаюць і з іншых месц. Да іх можна дадаць толькі адно: калі ж нашы чыноўнікі навучацца мысліць вось так па-дзяржаўнаму, як жыхар Камянецкага раёна і простыя людзі з іншых месц?!***

**Алесь ДРАБЧУК.**

## Сярод краін СНД Беларусь займае трэцяе месца па ўзроўні злачыннасці

Праблемы барацьбы з арганізаванай злачыннасцю на Беларусі, нелегальнай міграцыяй, увозам у краіну зброі і наркотыкаў, а таксама пытанні ўдасканальвання заканадаўства ў сферы нацыянальнай бяспекі абмеркаваны падчас семінара для членаў так званага Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу.

У канферэнц-зале Дзяржаўнага экспертна-крыміналістычнага цэнтра МУС Беларусі выступілі міністр унутраных спраў генерал-лейтэнант Юрый Сівакоў і кіраўнікі шэрагу службаў міністэрства.

Паводле слоў міністра, пры знешне спакойнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь сёння займае трэцяе месца сярод краін СНД па ўзроўні злачыннасці.

Сёння ў следчых ізалятарах, спецкамендатурах, месцах пазбаўлення волі знаходзіцца каля 100 тысяч чалавек, з іх у папраўча-працоўных установах адбываюць пакаранне каля 60 тысяч асуджаных, 52 працэнты якіх — ва ўзросце да 30 гадоў. Калоніі на тэрыторыі Беларусі перапоўнены звыш нормы ў 2—2,5 раза.

Гаворачы аб праблеме нелегальнай міграцыі, Юрый Сівакоў паведаміў, што да нядаўняга часу на тэрыторыі рэспублікі знаходзілася ад 120 да 150 тысяч нелегальных мігрантаў. Зараз жа, па яго ным сцвярджэнні, дзякуючы праведзеным мерапрыемствам, у тым ліку і арганізацыйна-прававога характару, гэтая лічба знізілася прыкладна да 80 тысяч.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## Выніковым аказаўся ўдзел беларускіх прадпрыемстваў у 32-м Каірскім міжнародным кірмашы

Беларуская гандлёва-прамысловая палата падвяла вынікі ўдзелу айчынных прадпрыемстваў у 32-м Каірскім міжнародным кірмашы, што прайшоў у сакавіку ў Егіпце.

Як паведаміў БелаПАН дырэктар беларускай Нацыянальнай экспазіцыі Вячаслаў Некрашэвіч, удзел у гэтым кірмашы стаў для Беларусі, бадай, самым выніковым за апошнія гады: падпісана 96 пратаколаў аб намерах па пастаўцы прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў, а таксама аб правядзенні сумесных навуковых і даследчых работ, стварэнні сумесных прадпрыемстваў у Егіпце і Беларусі і гэтак далей.

У прыватнасці, Мінскім заводам шасцерняў падпісаны кантракт на пастаўку ў 1999 годзе ў Егіпет першай партыі прадукцыі на суму 50 тысяч долараў ЗША. Беларускі аўтамабільны завод атрымаў заказ на адгрузку запасных частак да вялікагрузных самазвалаў, што працуюць у Егіпце, на суму каля 150 тысяч долараў ЗША. Беларускі металургічны завод папярэдне ўзгадніў з фірмай "Медзі Трэйд" кантракт на пастаўку ў Егіпет у другім паўгоддзі 1999 года прадукцыі на суму каля 1 мільёна долараў ЗША штомесяц. Дасягнута таксама дамоўленасць аб шматпланавым супрацоўніцтве паміж Беларускім оптыка-механічным аб'яднаннем і 24-мя егіпецкімі арганізацыямі і фірмамі сумежнага профілю. Намечаны перспектывы супрацоўніцтва Белдзяржуніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі з шэрагам дзяржаўных структур і фірм Егіпта ў галінах, што ўяўляюць узаемную цікавасць. Прыкладны кошт гэтых работ ацэньваецца ў 1,5—2 мільёна долараў ЗША. Тэрмін рэалізацыі праграмы складзе 2—2,5 гады. Падчас кірмашу дасягнуты і шэраг іншых канкрэтных дамоўленасцяў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Нават угнаенні сялянам не па кішэні

З-за пастаяннага росту цэн мінеральныя ўгнаенні становяцца яўна не па кішэні многім калгасам і саўгасам. Паводле даных Мінсельгасхарча, для правядзення сёлетняй веснавой сяўбы ў краіне не хапае каля чвэрці ўсіх відаў мінеральных угнаенняў.

**Алег ШВЕДАЎ, БелТА.**

## Прадстаўнікі свабодных прафсаюзаў збіраюцца правесці 15 красавіка ў Мінску шэсце і мітынг пад лозунгам "Не — некантралюемаму падзенню ўзроўню жыцця!"

Напрыканцы гэтага тыдня Мінскі гарвыканкам павінен даць адказ на заяўку Свабоднага прафсаюза беларускага (СПБ) і Свабоднага прафсаюза металістаў (СПМ) аб правядзенні 15 красавіка шэсця і мітынгу пад агульным лозунгам "Не — некантралюемаму падзенню ўзроўню жыцця!".

Нагадаем, што сёлета 27 студзеня ў Мінску прайшоў прафсаюзны мітынг, удзельнікі якога вылучылі ўраду шэраг патрабаванняў: спыніць рост цэн і інфляцыі; надаць заработнай плаце статус першачарговага плацяжу; павялічыць памеры пенсій; знізіць падатковую нагрузку з грамадзян і прадпрыемстваў; прадаставіць прафсаюзам час у дзяржаўных СМІ і некаторыя іншыя. Тады ж, на мітынгу, было заяўлена, што калі да 30 сакавіка кіраўніцтва рэспублікі не ажыццявіць захады па стабілізацыі жыццёвага ўзроўню насельніцтва, прафсаюзы пакідаюць за сабой права наладзіць масавыя акцыі пратэсту.

Такім чынам, запланаваныя на 15 красавіка шэсце і мітынг варта разглядаць як лагічны працяг згаданых падзей, паколькі ўлады праігнаравалі патрабаванні ўдзельнікаў студзеньскага мітынгу. Арганізатары акцыі заклікаюць усе прафсаюзы, палітычныя партыі, грамадскія рухі, арганізацыі і грамадзян рэспублікі падтрымаць маючае адбыцца мерапрыемства і ўзяць у ім актыўны ўдзел.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

## У СІЗА ГУУС Мінгарвыканкама адбылася сустрэча Юліі Чыгір з яе мужам

У следчым ізалятары ГУУС Мінгарвыканкама Юлія Чыгір сустрэлася са сваім мужам — экс-прэм'ерам, кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Міхаілам Чыгіром. Ён у чарговы раз заявіў аб сваёй невінаватасці і выказаў упэўненасць, што следства не знойдзе ў ягонай дзейнасці на пасадзе старшыні праўлення Белаграпрамбанка якіхсьці злачынных дзеянняў. З гэтай нагоды М.Чыгір лічыць залішнім удзел у справе адваката. Юлія Чыгір па-ранейшаму настойвае на допуску яе да абароны мужа, што прадугледжана артыкулам 49 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Беларусі. Адмаўленне следчага прадаставіць ёй такую магчымасць яна расцэньвае як парушэнне закона.

Падчас сустрэчы з жонкай Міхаіл Чыгір назваў умовы ўтрымання ў ізалятары здавальняючымі, а адносіны да яго з боку турэмнага персанала — нармальнымі. У камеры разам з ім утрымліваюцца яшчэ два чалавекі. У размове з жонкай М.Чыгіра цікавіла, як праходзіць падрыхтоўка да прызначаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання прэзідэнцкіх выбараў. Ён выказаў спачуванне сваякам і блізкім Г.Карпенкі, звесткамі аб смерці якога быў моцна ўзрушаны. Былі таксама абмеркаваны абвінавачванні ўлад у быццам бы санкцыянаваным М.Чыгіром пералічэнні фінансавых сродкаў у памеры адзін мільён долараў ЗША Белаграпрамбанкам канадскай фірме Lawrence Avwnue Group Ltd. на будаўніцтва адміністрацыйнага будынка Белаграпрамбанка, што з'явіліся ў афіцыйных СМІ. Бліжэйшым часам Юлія Чыгір, са згоды свайго мужа, мае намер абнародаваць у прэсе некаторыя дакументы і дзелавую перапіску па дадзеным пытанні.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН яна сказала, што канадская фірма Lawrence Avwnue Group Ltd, якой у якасці авансу быў пералічаны 1 мільён долараў ЗША на будаўніцтва новага будынка банка, была заснавальнікам беларускай фірмы "Каруна", якую ўзначальваў нехта Аркадзь Бародзіч. У сваю чаргу фірма "Каруна" аказвала актыўную фінансавую дапамогу ў перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі Аляксандра Лукашэнкі ў 1994 годзе. Больш таго, у офісе гэтай фірмы знаходзіўся перадвыбарчы штаб А.Лукашэнкі. Паводле слоў Ю.Чыгір, згаданая канадская фірма была рэкамендавана тагачаснаму банкіру М.Чыгіру ў якасці дзелавога партнёра асабіста А.Бародзічам і А.Лукашэнкам і сляды гэтай валюты трэба шукаць на банкаўскіх рахунках цяперашніх паплечнікаў прэзідэнта Беларусі.

Зараз Ю.Чыгір рыхтуе судовыя іскі да Аляксандра Лукашэнкі, а таксама рэдакцыі "Советской Белоруссии" і Беларускага тэлебачання ў сувязі з паклёпам у адрас яе мужа.

**Генадзь БАРБАРЫЧ,**
**БелаПАН.**

